# БССР—КРАІНА СУЦЭЛЬНАЙ ПІСЬМЕННАСЬЦІ

Беларусь уяўляла сабою ў мінулым адсталую, жабрацкую, прыгнечаную царызмам краіну. Да вайны мы мелі на сучаснай тэрыторыі БССР нікчэмныя майстэрні, дробныя заводзікі, на якіх працавала ўсяго толькі па некалькі дзесяткаў чалавек. Працоўны селянін стагодзьдзямі гнуў сваю сьпіну перад кулаком і памешчыкам, працаваў да крывавага поту і галадаў. Саха і смык (барана з яловых суччаў) панавалі ў сельскай гаспадарцы, як земляробскі інвэнтар.

А зараз!.. Зараз не пазнаць былой „адвечнай і самабытнай Беларусі“. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры дапамозе ўсяго СССР зьмяніўся твар Беларусі. БССР, як неадлучная частка ўсяго Савецкага Саюзу, шпаркімі крокамі ідзе наперад па шляху да пабудовы сацыялізму. Пабудаваны і будуюцца буйныя заводы і фабрыкі, на якіх працуюць тысячы рабочых. Растуць буйныя саўгасы і калгасы. З кожным годам сельская гаспадарка БССР усё больш узбройваецца трактарамі і складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі.

Вялізарнейшых посьпехаў мы дасягнулі і на фронце культурнага будаўніцтва. Да імпэрыялістычнай вайны на тэрыторыі цяперашняй БССР навучалася ў школах усяго 225.751 чал. дзяцей. Процант ахопу навучаньнем дзяцей ва ўзросьце 8—11 год складаў усяго толькі 43,2 проц. Усіх школьных устаноў было 3.733. Ва ўсіх школах навучаньне праводзілася выключна толькі на расейскай мове. Ні сярэдніх, ні пачатковых беларускіх школ да рэвалюцыі ў Беларусі ня было.

У выніку няўхільнага і пасьлядоўнага праведзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі нашае партыі ў БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі на адным з рашаючых вучасткаў пяцігодкі—на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва. У першую пяцігодку па БССР мы маем наступны рост народнай асьветы: з 1928-29 году па 1932-33 год сетка масавых пачатковых школ вырасла з 5.700 да 6.900. Колькасьць вучняў у іх за гэты час вырасла з 503.185 да 993.785. Бюджэт школы павялічыўся ў першай пяцігодцы з 13 мільёнаў 727 тысяч руб. да 53 мільёнаў 140 тысяч руб. У 1932 годзе 30 проц. усяго агульна-рэспубліканскага бюджэту затрачана на народную асьвету.

У 1932 годзе ў БССР завершана ўсеагульнае абавязковае пачатковае навучаньне і ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне на базе сямігодкі. Акрамя гэтага практычна прыступлена да ўвядзеньня 10-гадовага абавязковага навучаньня і ўжо арганізавана 40 васьмых груп дзесяцігодкі.

**Савецкая Беларусь,**—з краіны адсталай, няпісьменнай у мінулым,—**ператварылася ў краіну суцэльнай пісьменнасьці.**

За гады першай пяцігодкі прароблена вялізарнейшая работа па ахопе школамі дзяцей усіх нацыянальнасьцяй, якія знаходзяцца ў БССР. Напрыклад, колькасьць вучняў у яўрэйскіх школах павялічылася з 26.531 у 1928-29 г. да 36.560 у 1932 годзе, у польскіх школах—з 8.674 да 17.376. Таксама разгорнута будаўніцтва латыскіх, літоўскіх, украінскіх нацыянальных школ з тым, каб ахапіць усіх дзяцей гэтых нацыянальнасьцяй навучаньнем на іх роднай мове.

Буйнейшыя дасягненьні заваяваны і ў будаўніцтве сярэдняй і вышэйшай школы. За пяцігодку сетка вышэйшых навучальных устаноў па БССР узрасла **з 4 да 32.** Калі ў 1928 годзе мы мелі ўсяго толькі 30 тэхнікумаў, дык к канцу пяцігодкі—мы ўжо мелі 130 тэхнікумаў, якія рыхтуюць пралетарскія кадры для ўсіх галін нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

З кожным годам расьце лік студэнтаў вышэйшай і сярэдняй школы. Калі ў 1927-28 годзе было 10.073 чал., дык у 1932 годзе лік студэнтаў павялічыўся да 47.330 чал. Узрасло і асыгнаваньне на вышэйшую і сярэднюю школу за першую пяцігодку з 9 мільёнаў 212 тысяч руб. у 1928-29 годзе да 37 мільёнаў 671 тысячы руб. у 1932 годзе.

Савецкая Беларусь па ахопе насельніцтва абагнала перадавыя капіталістычныя краіны Захаду. Калі, напрыклад, у Англіі на кожныя 10 тысяч насельніцтва прыпадае 8 студэнтаў, у Нямеччыне—14, дык у нас—30 студэнтаў.

Мы маем бурны рост савецкай навукі ў БССР: калі ў 1921 годзе было толькі 76 навуковых працаўнікоў, дык у 1928 годзе, у пачатку пяцігодкі—512. А к канцу пяцігодкі лік савецкіх навуковых працаўнікоў вырас да 2.000 чал.

Толькі няўхільным і пасьлядоўным ажыцьцяўленьнем ленінскай нацыянальнай палітыкі, у рашучай няпрымірымай барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам—галоўнай небясьпекай, з ухілам у бок мясцовага беларускага шавінізму, у барацьбе з контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і лібэральна-гнілым прымірэнцтвам,—КП(б)Б дабілася гэтых вялізарнейшых дасягненьняў на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

На аснове гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 году „Аб праграмах і рэжымах у сярэдняй і пачатковай школах“, сьнежаньскі (1932 г.) пленум ЦК КП(б)Б намеціў рад практычных мерапрыемстваў аб перабудове работы масавай сярэдняй і вышэйшай школ. Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б зьяўляецца бальшавіцкай праграмай далейшага культурнага будаўніцтва ў нас у БССР. Пленум падкрэсьліў, што важнейшай і рашаючай задачай усіх органаў Наркамасьветы, а таксама партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый зьяўляецца **„упартая барацьба за павышэньне граматнасьці вучняў, за грунтоўнае аўладаньне імі асновамі навукі, за выхаваньне з іх сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“.**

Пасьпяховае выкананьне намечаных пленумам ЦК мерапрыемстваў магчыма толькі пры ўмове неаслабнай і бязьлітаснай барацьбы з праваапартуністычнымі элемэнтамі, якія ёсьць у школе, з „левацкімі“ апартуністычнымі перагібамі, з дробна-буржуазнай разбэшчанасьцю і халатнасьцю; пры ўмове павышэньня клясавай пільнасьці, памятаючы, што **„новыя посьпехі сацыялізму рабочая кляса забясьпечыць толькі ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, перамагаючы буржуазныя і дробна-буржуазныя прадрассудкі сярод працоўных і вядучы настойлівую работу па сацыялістычнаму іх перавыхаваньню“** (з рэз. XVII канф. УсеКП(б)).

**С-ка.**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ ШЛЯХІ

2
1933
СТУДЗЕНЬ

# Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі

## З дакладу т. СТАЛІНА на пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) 7 студзеня 1933 г.

### Партыя выконвае заветы Леніна.

Пяцігодка ў галіне сельскай гаспадаркі ёсьць пяцігодка калектывізацыі. З чаго выходзіла партыя, праводзячы калектывізацыю? Партыя выходзіла з таго, што для ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту і пабудовы сацыялістычнага грамадзтва, апрача індустрыялізацыі, неабходзен яшчэ пераход ад дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі да буйнай, калектыўнай сялянскай гаспадаркі, забясьпечанай трактарамі і сучаснымі сельска-гаспадарчымі машынамі, як адзіна-моцнай асновы савецкай улады на вёсцы.

1127/8

Партыя выходзіла з таго, што без калектывізацыі нельга вывесьці нашу краіну на шырокую дарогу пабудовы эканамічнага фундаманту сацыялізму, немагчыма выбавіць шматмільённае працоўнае сялянства ад галечы і невуцтва.

Ленін гаварыў, што **„дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці“** (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 540).

Ленін гаварыў, што **„калі мы будзем сядзець па-старому на дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае немінучая пагібель“** (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 417).

Ленін гаварыў, што **„толькі пры дапамове агульнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з таго тупіку, у які загнала нас імпэрыялісцкая вайна“** (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 537).

Ленін гаварыў, што **„неабходна перайсьці да агульнай апрацоўкі ў буйных узорных гаспадарках; бяз гэтага выйсьці з тэй разрухі, з таго проста такі распачлівага становішча, у якім знаходзіцца Расія, нельга“** (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 418).

Выходзячы з гэтага Ленін прышоў да наступнага асноўнага вываду:

**„Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадзкай, калектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі, калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу“** (Ленін, 3-е выданьне, том XIV, стар. 579-580).

З гэтых палажэньняў Леніна выходзіла партыя, праводзячы праграму калектывізацыі сельскай гаспадаркі, праграму пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

У сувязі з гэтым задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб аб'яднаць разрозьненыя і дробныя індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, пазбаўленыя магчымасьці скарыстаць трактары і сучасныя сельска-гаспадарчыя машыны,— у буйныя калектыўныя гаспадаркі, узброеныя ўсімі сучаснымі прыладамі высока разьвітай сельскай гаспадаркі, а свабодныя землі пакрыць узорнымі дзяржаўнымі гаспадаркамі, саўгасамі.

Задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны дробна-сялянскай і адсталай у краіну буйнай сельскай гаспадаркі, якая арганізавана на базе калектыўнай працы і дае найбольшую таварнасьць. Чаго дабілася партыя, праводзячы праграму пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі? Выканала яна гэту праграму, ці пацярпела крах?.

### Пяцігодка ў сельскай гаспадарцы перавыканана ў тры разы

Партыя дабілася таго, што на працягу якіх-небудзь трох год яна здолела арганізаваць больш 200.000 калектыўных гаспадарак і каля 5.000 саўгасаў збожжавага і жывёлагадоўчага напрамку, дабіўшыся адначасова пашырэньня пасеўных плошчаў за чатыры гады на 21 млн. гэктараў. Партыя дабілася таго, што калгасы яднаюць цяпер звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усіх сялянскіх плошчаў, што азначае **перавыкананьне пяцігодкі ў тры разы.**

Партыя дабілася таго, што замест 500—600 млн. пудоў таварнага збожжа, якое загатаўлялася ў перыяд пераважваньня індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, яна мае цяпер магчымасьць загатаўляць 1.200—1.400 млн. пудоў збожжа штогод.

Партыя дабілася таго, што кулацтва як кляса разгромлена, хоць і недабіта яшчэ, працоўнае сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная



„Калі мы будзем сядзець па-старому на дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае немінучая гібель“ (ЛЕНІН).

эканамічная база ў вёсцы, база калектыўнай гаспадаркі. Партыя дабілася таго, што СССР ператворан ужо з краіны дробнай сялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце.

Такія ў агульным выніку пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

Мяркуйце цяпер самі: чаго варта пасьля ўсяго гэтага балбатня буржуазнай прэсы аб „краху“ калектывізацыі, аб „правале“ пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

## У капіталістычных краінах жорсткі сельска-гаспадарчы крызіс

А як стаіць справа з сельскай гаспадаркай у капіталістычных краінах, якія перажываюць зараз жорсткі сельска-гаспадарчы крызіс?

Вось усім вядомыя афіцыяльныя даныя:

Скарочаны пасеўныя плошчы ў асноўных збожжавытвараючых краінах на 8—10 проц., скарочаны пасеўныя плошчы па бавоўне ў ПАЗШ на 15 проц., па цукровых бураках у Германіі і Чэха-Славакіі—на 22—30 проц., па ільну ў Літве і Латвіі—на 25—30 проц.

Паводле даных амэрыканскага сельска-гаспадарчага дэпартаманту кошт валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў ПАЗШ зьнізіўся з 11 млрд. доляраў у 1929 г. да 5 млрд. у 1932 г., г. зн. больш чым на 50 проц. Па збожжы там-жа кошт валавой прадукцыі зьнізіўся з 1.288 млн. доляраў у 1929 г. да 391 даляраў у 1932, г. зн. больш чым на 68 проц. Па бавоўне там-жа зьніжэньне з 1.389 млн. даляраў у 1929 г. да 397 млн. даляраў у 1932 г., г. зн. зьніжэньне больш чым на 70 проц. Ці-ж не гавораць усе гэтыя факты аб перавагах савецкай сыстэмы сельскай гаспадаркі перад сыстэмай капіталістычнай? Ці-ж не гавораць гэтыя факты аб тым, што калгасы зьяўляюцца больш жыцьцяздольнай формай гаспадаркі, чым аднаасобныя і капіталістычныя гаспадаркі?

## Толькі ворагі народу могуць гаварыць аб непатрэбнасьці калгасаў і саўгасаў

Гавораць, што калгасы і саўгасы ня зусім рэнтабэльны *), што яны паглынаюць безьліч сродкаў, што трымаць такія прадпрыемствы няма ніякага рэзону, што больш мэтазгодным было-б распусьціць іх, пакінуўшы толькі рэнтабэльныя з іх. Але так могуць гаварыць толькі людзі, якія нічога не разумеюць у пытаньнях народнай гаспадаркі, у пытаньнях эканомікі.

Больш паловы тэкстыльных прадпрыемстваў некалькі год таму назад былі нерэнтабэльнымі. Адна частка нашых таварышоў прапаноўвала нам тады закрыць гэтыя прадпрыемствы. Што было-б з намі, калі-б мы паслухалі іх? Мы зрабілі-б найвялікшае злачынства перад краінай, перад рабочай клясай, бо мы разбурылі-б гэтым нашу ўзрастаючую прамысловасьць. Як-жа мы паступілі тады? Мы пачакалі год з лішкам і дабіліся таго, што ўся тэкстыльная прамысловасьць стала рэнтабэльнай.

А наш аўтазавод у г. Горкім? Таксама-ж нерэнтабэльны пакуль што. Ці не загадаеце закрыць яго? Або наша чорная мэталюргія, якая таксама пакуль што нерэнтабэльная? Ці не закрыць яе, таварышы? Калі так глядзець на рэнтабэльнасьць, дык мы павінны былі-б разьвіваць ва ўсю толькі некаторыя галіны прамысловасьці, якія даюць найбольшую рэнту, напрыклад — кандытэрскую прамысловасьць, мукамольную прамысловасьць, парфумэрную, трыкатажную, прамысловасьць дзіцячых цацак і г. д. Я, зразумела, ня супроць разьвіцьця гэтых галін прамысловасьці, наадварот, яны павінны быць разьвіты, бо яны таксама патрэбны для насельніцтва. Але, па-першае, яны ня могуць быць разьвіты без абсталяваньня і апалу, якія дае ім цяжкая індустрыя. Па-другое, на іх немагчыма базаваць індустрыялізацыю. Вось у чым справа, таварышы.

На рэнтабэльнасьць нельга глядзець па-гандлярску з пункту погляду данай мінуты. Рэнтабэльнасьць трэба браць з пункту гле-

*) Рэнтабэльны—даходны.

джаньня агульна-народнай гаспадаркі ў разрэзе некалькіх год. Толькі такі пункт гледжаньня можа быць назван сапраўды ленінскім, сапраўды марксыцкім. І гэты пункт гледжаньня абавязковы ня толькі ў адносінах да прамысловасьці, але яшчэ ў большай ступені ў адносінах да калгасаў і саўгасаў.

Вы толькі падумайце: за якія-небудзь тры гады мы стварылі больш 200.000 калгасаў і каля 5 тыс. саўгасаў, г. зн. мы стварылі зусім новыя буйныя прадпрыемствы, якія маюць такое-ж значэньне для сельскай гаспадаркі, як заводы і фабрыкі для прамысловасьці. Назавеце краіну, якая здолела-б стварыць на працягу трох год ня 205 тыс. новых буйных прадпрыемстваў, а хоць-бы 25.000 такіх прадпрыемстваў. Вы не назавеце, бо няма і ня бывала такой краіны. А мы стварылі 205 тыс. новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы. І вось ёсьць, аказваецца, на сьвеце людзі, якія патрабуюць, каб гэтыя прадпрыемствы сталі адразу рэнтабэльнымі, а калі яны ня стануць адразу рэнтабэльнымі, то зруйнаваць і распусьціць іх. Ці ня ясна, што лаўры Герастрата не даюць спаць гэтым больш чым дзіўным людзям.

Гаворачы аб рэнтабэльнасьці калгасаў і саўгасаў, я зусім не хачу сказаць, што яны ўсе нерэнтабэльныя. Нічога падобнага. Усім вядома, што ўжо цяпер ёсьць цэлы рад высока-рэнтабэльных калгасаў і саўгасаў. У нас ёсьць тысячы калгасаў і дзесяткі саўгасаў зусім рэнтабэльных ужо цяпер. Гэтыя калгасы і саўгасы зьяўляюцца гонарам нашай партыі, гонарам савецкай улады.

Калгасы і саўгасы, зразумела, ня ўсюды аднолькавыя. Сярод калгасаў і саўгасаў ёсьць старыя, новыя і зусім маладыя. Гэта яшчэ слабыя, ня зусім адлітыя гаспадарчыя арганізмы. Яны перажываюць у сваім арганізацыйным будаўніцтве прыблізна той-жа пэрыяд, які перажывалі нашы заводы і фабрыкі ў 1920—21 г.г. Зразумела, што яны ня могуць быць яшчэ рэнтабэльнымі ў сваёй большасьці. Але што яны стануць рэнтабэльнымі на працягу 2—3 год таксама, як сталі рэнтабэльнымі нашы фабрыкі і заводы пасьля 1921 г., у гэтым ня можа быць ніякага сумненьня. Адмовіць ім у дапамозе і падтрыманьні на тэй падставе, што ня ўсе яны рэнтабэльныя ў даную мінуту,—значыць зрабіць найвялікшае злачынства перад рабочай клясай і сялянствам.

**Толькі ворагі народу і контр-рэвалюцыянэры могуць ставіць пытаньне аб непатрэбнасьці калгасаў і саўгасаў.**

## Замацаваць калгасы арганізацыйна— галоўная задача

Ажыцьцяўляючы пяцігодку па сельскай гаспадарцы, партыя праводзіла калектывізацыю паскоранымі тэмпамі. Ці правільна зрабіла партыя, праводзячы палітыку паскораных тэмпаў калектывізацыі. Так, бязумоўна, правільна, хоць і не абышлася тут справа без некаторых захапленьняў.

Праводзячы палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы і выкарчоўваючы кулацкія гнёзды, партыя не магла спыніцца на паўдарозе, яна павінна была давесьці да канца гэту справу. Гэта, па-першае. Па-другое, маючы ў сваім распараджэньні трактары, сельгасмашыны, з аднаго боку, і карыстаючыся адсутнасьцю прыватнай уласнасьці на зямлю (нацыяналізацыя зямлі), з другога боку, партыя мела ўсе магчымасьці фарсаваць калектывізацыю сельскай гаспадаркі. І яна сапраўды дабілася ў гэтай галіне найвялікшага посьпеху, бо перавыканала праграму пяцігодкі па калектывізацыі ў тры разы.

Цяпер пытаньне стаіць ужо не аб тым—быць ці ня быць калгасам,—гэта пытаньне ўжо вырашана станоўча. Калгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. **Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць калгасы арганізацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя правераныя бальшавіцкія кадры для калгасаў і зрабіць калгасы сапраўды бальшавіцкімі.**

# КРЫВАВАЯ НЯДЗЕЛЯ

22 студзеня (па ст. стылю 9 студзеня) 1905 г. зьяўляецца пачаткам расійскай рэвалюцыі. Гэты дзень утварыў рэзкі пералом у палітычнай сьвядомасьці рабочае клясы і расчыніў яму вочы на клясавую прыроду самаўладзтва. Да падзей крывавай нядзелі рабочыя не разумелі, што цар зьяўляецца главой клясы буйных земляўласьнікаў, якія сотнямі ніцей зьвязаны з буйнай буржуазіяй. Рабочыя думалі, што цар аднолькава клапоціцца аб усіх і 9 студзеня пайшлі да яго шукаць абароны для працоўных ад капіталістаў і абшарнікаў. У „крывавую нядзелю“ была „расстрэлена“ вера рабочых у „бацюшку-цара“. У гэты дзень калёсальныя народныя масы абудзіліся да палітычнага жыцьця і рэвалюцыйнай барацьбы.



**На здымку:** Расстрэл рабочых каля Зімняга палацу, якія, справакаваныя папом Гапонам, ішлі да цара з пэтыцыяй. Дзейнасьць папа Гапона—яркі ўзор клясавай ролі рэлігіі ў капіталістычным грамадзтве.

# Пад сьцягам Леніна перамагалі і пераможам



Дзевяць год прайшло з дню сьмерці найвялікшага правадыра пралетарыяту—Леніна. Няма такога прыкладу ў гісторыі, каб сьмерць аднаго чалавека так глыбока патрасла ўвесь сьвет. Сотні мільёнаў прыгнечанага чалавецтва з глыбокім жалем аплакалі свайго правадыра, імя якога стала сьцягам у барацьбе за бясклясавае грамадзтва, за сацыялізм.

Геніяльнасьць Леніна састаяла ў тым, што ён, як ніхто, глыбока разумеў складаны ход законамернасьці гістарычнага працэсу, што ён, як ніхто, глыбока разумеў дыялектыку сапраўднасьці.

Ленін, узброены марксыцкай дыялектыкай, прароцкі прадбачыў і прадсказаў гістарычныя падзеі, ён, як вопытны кармаг, верна кіраваў караблём пралетарскай рэвалюцыі.

Бальшавіцкая партыя, пад кіраўніцтвам свайго вопытнага правадыра, няўхільна, з нябачанай умеласьцю ішла ад перамогі к перамозе.

І вось 21 студзеня ў 18 гадзін 50 хвілін 1924 г. Ўладзімера Ільліча ня стала. Сьмерць вырвала жыцьцё гэтага вялікага, дарагога пралетарыяту чалавека.

Але Ленін заставіў створаную ім моцна-спаяную, загартаваную ў клясавых бойках партыю, якая працягвае справу свайго арганізатара і правадыра.

Сталёвая бальшавіцкая партыя пад кіраўніцтвам свайго Ленінскага ЦК, на чале лепшага вучаніка Леніна—тав. Сталіна,—ідзе зараз шпаркімі крокамі ад перамогі к перамозе па будаўніцтву сацыялізму ў СССР.

Выконваючы заветы Леніна, мы гіганцкімі тэмпамі разгарнулі аснову сацыялістычнай гаспадаркі—буйную прамысловасьць. Наш пяцігадовы плян выканан у галіне прамысловасьці за 4 гады. За час першай пяцігодкі мы пабудавалі нябачаныя ў сьвеце заводы-гіганты.

Наша краіна з аграрнай ператварылася ў індустрыяльную, бо ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ў адносінах сельска-гаспадарчай узьнялася з 48 проц. у пачатку пяцігодкі (1928 г.) да 70 пр. пад канец 4-га году пяцігодкі (1932 г.). Мы ўзьнялі аб'ём прамысловай прадукцыі больш, чым у 3 разы параўнальна з даваенным узроўнем і больш, чым у два разы параўнальна з узроўнем 1928 году.

Выконваючы заветы Леніна, партыя дабілася аграмаднейшых посьпехаў і ў сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. Пяцігодка ў галіне сельскай гаспадаркі перавыканана ў 3 разы. Больш 200 тысяч калгасаў, каля 5 тысяч збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў, пашырэньне пасеўнай плошчы на 21 мільён гэктар,—вось вынікі першай пяцігодкі. Партыя дабілася таго, што калгасы яднаюць звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усіх сялянскіх плошчаў. У важнейшых збожжавых раёнах СССР праведзена ў асноўным суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва як клясы.

Няўхільным правядзеньнем Ленінскай нацыянальнай палітыкі партыя дабілася аграмаднейшых посьпехаў у нацыянальна-культурным будаўніцтве краіны. Напрыклад, Беларусь,—з адсталай, жабрацкай, няпісьменнай у мінулым краіны, — ператварылася ў культурную, суцэльна-пісьменную краіну. БССР, як неадлучная частка ўсяго Савецкага Саюзу, пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі шпаркімі тэмпамі ідзе наперад па шляху да пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва, да сацыялізму.

Сацыялізм ужо не аддалёная пэрспэктыва, а сёнешняя сапраўднасьць. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне першай пяцігодкі—доказ гэтаму.

Гэта стала магчымым толькі таму, што партыя пралетарыяту заставалася вернай заветам свайго найвялікшага правадыра—Леніна, таму, што партыя берагла заветы Леніна аб адзінстве партыі, як зяніцу вока, таму, што партыя ня зьбілася з Ленінскага шляху і няшчадна сакрушала ўсіх апартуністаў, пад якой-бы яны маскай ні выступалі. З дапамогай ленінскага аружжа мы сьмяртэльна білі і б'ём клясавых ворагаў.

Мы ўступілі ў другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Праграма другой пяцігодкі грандыёзна, яна патрабуе шмат сіл і энэргіі. Але няма ніякага сумненьня ў тым, што намечаная праграма другой пяцігодкі будзе ня толькі выканана, але і перавыканана. Парука гэтаму—ленінскае кіраўніцтва сацыялістычным будаўніцтвам стальной бальшавіцкай партыі, якая непераможна, якая не баіцца цяжкасьцяй.

„Са сьцягам Леніна перамаглі мы ў бойках за Кастрычніцкую рэвалюцыю. Са сьцягам Леніна дабіліся мы рашаючых посьпехаў у барацьбе за перамогу сацыялістычнага будаўніцтва. З гэтым-жа сьцягам пераможам у пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.

Няхай жыве ленінізм!" (Сталін).

# ТЭХНІЧНАЕ ПЕРАЎЗБРАЕНЬНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ Ў ДРУГОЙ ПЯЦІГОДЦЫ

## Вынікі першай пяцігодкі

Сельская гаспадарка СССР уступіла ў другую пяцігодку з вялізарнымі посьпехамі.

Пасеўная плошча з 1928 г. па 1932 г. узрасла на 23,1 мільён *га*, у той час, як у Амэрыцы за гэты-ж час пасеўная плошча зьнізілася на 2,5 міл. *га*. Узрастаюць вытворчыя фонды ў сельскай гаспадарцы СССР: у 1928 г. яны складалі 17,9 мільярдаў рублёў, у 1932 г.—26,9 мільярдаў.

З усёй сумы капіталаўкладаньняў у сельскую гаспадарку на трактары і сельска-гаспадарчыя машыны пайшло: у 1928 г. — 18,5 проц., у 1929 — 20,2 проц., у 1930 г.—25,1 проц., у 1931—31,2 пр.

Калі трактарны парк СССР у 1927 г. складаў 34,5 тыс. трактароў, дык у 1932 г. ён дасягнуў 175000 трактароў, агульнай магутнасьцю звыш 2,2 мільён. конскіх сіл. Трактарны парк БССР на 1932 г. (сярэдзіна году) складаецца з 2750 трактароў агульнай магутнасьцю 32600 конскіх сіл — у той час, як у 1928 г. у БССР было толькі 173 трактары. Шпарка ўзрастае колькасьць МТС— гэтай цалкам сябе апраўдаўшай формы падвядзеньня буйнай машыннай тэхнікі пад сялянскую гаспадарку.

У сельскай гаспадарцы пачалі ўжывацца новыя, высока-прадукцыйныя машыны: магутныя трактарныя плугі, шырока захватныя сеялкі, камбайны, ільнацерабілкі, бульбасаджалкі, бульбакапалкі, сіласарэзкі, сенанагрузчыкі і г. д. Шырокае ўкараненьне трактароў і машын у сельскай гаспадарцы рэзка ўзьнімае энэргаўзброенасьць і вытворчасьць працы ў саўгасах і калгасах.

Сельска-гаспадарчае мышынабудаўніцтва СССР разьвіваецца нябачанымі ў сьвеце тэмпамі. Выраб сельска-гаспадарчых машын на заводах СССР узрастае наступным чынам (з акругленьнем): 1928—140 міл. руб., 1930—400, 1931—600 і 1932—900 мільён. руб.

Даволі параўнаць гэтыя лічбы з даваеннай прадукцыяй сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва царскай Расіі (70 мільён. р. у 1913 г.), каб убачыць, наколькі СССР далёка пакрочыў наперад. СССР мае такія буйнейшыя ў сьвеце заводы, як Ростсельмаш, „Серп і Молат“, імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі, „Камунар“ і інш. Вытворчая праграма Ростсельмашу складае 115 міл. руб. у год (а ўсе заводы даваеннай Расіі далі 70 мільён. руб.). БССР можа ганарыцца такім буйным заводам, як Гомсельмаш з вытворчай праграмай у 15 мільён. рублёў.

СССР поўнасьцю асвоіў будаўніцтва трактароў. Магутнейшыя ў сьвеце трактарныя заводы СССР— Сталінградзкі, Харкаўскі, „Красный Путиловец“ і Чалябінскі — даюць штодзённа сотні трактароў. Вытворчая праграма іх—180.000 трактароў у год. Ужо ў 1932 г. гэтыя заводы далі краіне Саветаў на 1 мільён конскіх сіл трактароў. Па выпуску трактароў СССР вышаў на першае месца ў сьвеце. Пяцігодкай меркавалася выпусьціць у СССР 91.000 трактароў. На справе-ж за чатыры гады пяцігодкі ў СССР выпушчана 105.850 трактароў. СССР па трактарам і сельска-гаспадарчым машынам поўнасьцю вызваліўся ад капіталістычнай залежнасьці.

## Задачы другой пяцігодкі

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) намеціла на другую пяцігодку „па сельскай гаспадарцы ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб МТС ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці“.

Вытворчасьць працы ў сельскай гаспадарцы павінна быць узьнята на ящчэ большую вышыню. Энэргаўзброенасьць сельска-гаспадарчай працы рэзка ўзрастае. Агульная магутнасьць трактарнага парку СССР у канцы другой пяцігодкі будзе даведзена да 15 мільён. конскіх сіл. Да гэтага дадаецца 3—4 мільёны конскіх сіл у электрычнасьці, 5 — 10 мільёнаў конскіх сіл у аўтамабілях і 4,4 мільён. конскіх сіл у іншых рухавіках унутранага згараньня. Акрамя гэтага ў другой пяцігодцы вялікая ўвага будзе зьвернута на скарыстаньне ветрасілавой энэргіі, на што ў БССР павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага.

Трактарны парк БССР у канцы другой пяцігодкі дасягне 300—400 тысяч конскіх сіл. Колькасьць МТС узрасьце па СССР да 5—5,5 тысяч, па БССР—да 200.

Гэтыя высокія тэмпы пераўзбраеньня сельскае гаспадаркі ў другой пяцігодцы забясьпечаны той базай, якую падрыхтавала сацыялістычная індустрыя.

## Трактар і электраматор

На бліжэйшым этапе мэханізацыя працэсаў паляводзтва пойдзе па лініі трактарызацыі. Сацыялістычная індустрыя СССР забясьпечыць масавы выраб трактароў і прычапных машын да іх. Ня гледзячы на тое, што электраматор мае шэраг пераважнасьцяй (прастата абслугоўваньня, танная энэргія, драбімасьць і г. д.), мы ня можам пакуль што даць столькі электраэнэргіі і электраабслугоўваньня, каб электрыфіцыраваць паляводзтва.

Электрафікацыя сельскай гаспадаркі ў першую чаргу пойдзе па лініі стацыянарных працэсаў.

Будзе электрафіцыравана жывёлагадоўля, большасьць стацыянарных працэсаў якой нерацыянальна мэханізаваць пры дапамозе рухавікоў унутранога згараньня. Будуць электрыфіцыраваны кормапрыгатаўленьне (сіласаваньне, рэзка корму, драбленьне кармоў і інш.), даеньне, раздача корму, чыстка жывёлы і г. д.

Электрычнасьць заваюе сабе таксама значнае месца па лініі тэхнічных культур, у плодагароднай гаспадарцы, у індустрыі па першапачатковай апрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў (ільназаводы, крухмальныя заводы, млыны і інш.) і ў рамонтных майстэрнях.

На працягу другой пяцігодкі трактар павінен быць пераканструяваны ў напрамку павялічэньня яго рабочай хуткасьці, што цягне за сабой павялічэньне вытворчасьці сельска-гаспадарчых машын пры адначасовым зьмяншэньні іх рабочага захопу, спрашчэньні счэпкі, а таксама дае эканомію на мэтале. Значна зьнізіць каштоўнасьць трактарнай

работы, пераход трактароў на цяжкае (нафта) і асабліва мясцовае паліва (торф, якім вельмі багата БССР).

### Спалучэньне каня з трактарам

Праца ў сельскай гаспадарцы, як відаць з вышэй прыведзеных лічбаў, будзе ў другой пяцігодцы значна энэргаўзброена. Гэты рост энэргаўзброенасьці сельска-гаспадарчай працы пойдзе галоўным чынам за лік мэханічных рухавікоў. Але гэта зусім не азначае, што конская цяга будзе непатрэбна, гэта ня значыць, што магчыма ісьці па лініі скарачэньня конскага пагалоўя.

Пашырэньне пасеўнай плошчы ў другой пяцігодцы, уздым на вышэйшую ступень якасьці сельска-гаспадарчай работы, уздым ураджайнасьці, барацьба за агратэхніку, мэханізацыя працаёмістых тэхнічных культур, вялізарнае ўзрастаньне грузазвароту ў сельскай гаспадарцы—усё гэта гаворыць за тое, што адначасова з трактарам неабходна больш поўна скарыстоўваць і каня, а таксама дабіцца павялічэньня конскага пагалоўя.

Неабходна так спалучаць работу трактара і каня, каб больш цяжкія работы (узорваньне, дыскаваньне) выконваліся трактарам, а больш лёгкія (баранаваньне, транспарт)—канём. Такія тэрміновыя работы, як пасеўныя і ўборачныя, мэтазгодна шырока пераводзіць на трактарную цягу. Таксама мэтазгодна выконваць трактарам малацьбу, сіласаваньне. Толькі ўмелым размеркаваньнем работ паміж трактарам, электраматорам і канём магчыма забясьпечыць найвышэйшую вытворчасьць сельска-гаспадарчай працы.

Павялічэньне конскага пагалоўя і беражлівыя адносіны да каня таксама патрэбны для ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны.

### Сыстэма машын

Унядрэньне мэханічнай энэргіі ў сельскую гаспадарку ў другой пяцігодцы стварае базу для масавага ўжываньня высока-ўдасканаленай сыстэмы рабочых машын.

Значная частка існуючых сельска-гаспадарчых машын па сутнасьці зьяўляюцца машынамі коннай цягі. Яны павінны быць пераканструяваны з разьлікам на павялічэньне рабочай хуткасьці трактара і ў бок пашырэньня іх рабочага захопу, што дасьць павялічэньне вытворчасьці сельска-гаспадарчых работ і больш поўную загрузку трактароў.

Вырашэньне пастаўленых задач пойдзе па наступным лініям:

а) усё большую ролю будуць адыгрываць розныя камбайны. Акрамя існуючых зараз зерневых камбайнаў будуць ужывацца ільняныя, бульбяныя, глебаапрацоўчыя, сенаўборачныя, сіласаўборачныя і інш. камбайны;

б) будзе шырока практыкавацца выкананьне сельска-гспадарчых работ агрэгатамі шляхам сцэпкі розных машын (напр., адначасовае ўзорваньне, дыскаваньне баранаваньне і інш.).;

г) машыны будуць унівэрсалізаваны і пашыраны. Сфэра іх дзейнічаньня шляхам распрацоўкі сыстэмы розных дадатковых зьменных рабочых ворганаў і прыстасаваньняў, дазваляючы скарыстоўваць адну і тую-ж машыну для розных культур і работ.

Вялікае значэньне для БССР мае мэханізацыя тэхнічных культур (лён, бульба, каноплі). Укаранійўшыйся раней погляд на немагчымасьць шырокай мэханізацыі тэхнічных культур зьяўляецца няправільным, шкодным і павінен быць адкінуты. Такі погляд укараніўся ў капіталістычных краінах з іх беспрацоўем і дробнасьцю гаспадарак. Ва ўмовах сацыялістычнага земляробства трэба пакончыць з недаацэнкай мэханізацыі тэхнічных культур. Мэханізацыя тэхнічных культур у дзесяткі разоў павялічвае вытворчасьць працы.

Па ільну ўводзяцца наступныя машыны: кустарнікавыя плугі, ільняныя сяваркі, машыны для праполкі лёну, шыроказахопныя ільнацерабілкі, ільнаўборачны камбайн і інш.

Па бульбе ўводзяцца наступныя машыны: шматрадковыя бульбасаджалкі і абсыпнікі, бульбакапалкі з падборшчыкам бульбы, бульбаўборачны камбайн, бульбяная сарціроўка і інш.

Для павялічэньня кармавой базы для жывёлагадоўлі набывае вялікае значэньне мэханізацыя травяных культур і сенажацяй. Уводзяцца наступныя машыны: шыроказахватныя трактарныя касілкі, бакавыя граблі, сенанагрузчыкі, сенакамбайны, стогамятацелі, сенныя прэсы, спэцыяльныя малатарні, сартыроўкі для траў і г. д.

Па іншых культурах і жывёлагадоўлі ўводзяцца наступныя машыны і прылады: фрэзэрныя барабаны да трактароў СТЗ і ЧТЗ для апрацоўкі глебы, пасяўныя камбайны, гноенагрузчыкі і гноераскідвальнікі, пасадачныя і ўборачныя машыны для гародніх культур, высокавытворчыя зерняачышчальныя ўстаноўкі, малатарні, ачышчальныя кармападрыхтоўчыя машыны (рэзка саломы, рэзка сілосу, драбленьне макухі і інш.), бульбамойкі, бульбамялкі, кормазапарнікі, аўтапаілкі, аўтаматычныя прывязі і цэлы рад іншых.

Большасьць з пералічаных машын ужо маюцца, але яны павінны быць удасканалены, перакантсруяваны.

### За ауладаньне тэхнікай

„Ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна звязана з справай аўладаньня тэхнікай“... (17 партканфэрэнцыя). Зусім зразумела, што тая вялізарная колькасьць рухавікоў і машын, якія ўводзяцца ў сельскую гаспадарку на працягу другой пяцігодкі, для атрыманьня ад іх належнага эфэкту, патрабуе аўладаньня тэхнікай гэтых рухавікоў і машын.

Новыя высокадасканалыя машыны патрабуюць таксама высока-кваліфікаваных кадраў. Кожны рабочы саўгасу, МТС, кожны калгасьнік, працуючы на трактарах і сельска-гаспадарчых машынах, павінны вывучаць іх, павінны поўнасьцю аўладаць імі. Стварэньне сацыялістычнай сыстэмы машын, канструяваньне новых высока-вытворчых машын для сацыялістычнага земляробства таксама патрабуе высокай кваліфікацыі канструктароў, інжынэраў, мэханікаў.

Тут непачаты край работы для вынаходнікаў і рацыяналізатараў. У саўгасах, МТС, калгасах, у кожным сельска-гаспадарчым прадпрыемстве павінны быць створаны ячэйкі вынаходнікаў, павінны быць створаны спрыяючыя ўмовы для вынаходніцкай і рацыяналізатарскай ініцыятывы.

Пасьпяховае вырашэньне ўсіх пастаўленых у другой пяцігодцы задач па тэхнічнаму пераўзбраеньню сельскай гаспадаркі будзе забясьпечана толькі ў рашучай барацьбе з рэшткамі капіталізму ў вёсцы — кулаком і яго агентурай — правымі і „левымі“ апартуністамі, у барацьбе з гнілым лібэралізмам.

**Г. Трушынскі.**

Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б—

# БАЯВАЯ ПРАГРАМА РАБОТ

## партыйных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый на вёсцы

**Толькі шырокай мабілізацыяй калгасных мас і працоўных аднаасобнікаў, у бязьлітаснай барацьбе з клясава-варожымі элемэнтамі і рашучым ачышчэньнем партыйных арганізацый ад усіх разлажыўшыхся, зросшыхся з кулаком камуністаў, будзе з посьпехам выканана важнейшая пастанова пленуму ЦК КП(б)Б.**

**Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб павышэньні ўраджайнасьці, аб пляне і арганізацыі веснавой сяўбы ў 1933 г.**

Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б (сьнежань 1932 г.)

(*Канец. Гл. № 1 „Ш. К.“*)

### V. Аб укараненьні агратэхнікі

12. Пленум з усёй сілай падкрэсьлівае важнасьць і неабходнасьць аўладаньня агратэхнікай і тэхнікай буйнай сацыялістычнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці, без чаго немагчыма канкрэтнае і глыбокае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, немагчыма разгортваньне бальшавіцкай барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Пленум ЦК лічыць абавязковым:

а) аўладаньне агратэхнікай у першую чаргу ўсім складам РК КП(б)Б, ЛКСМБ, РВК, раённых работнікаў, сакратароў партыйных і камсамольскіх ячэек, дырэктароў МТС, саўгасаў, праўленьняў калгасаў, брыгадзіраў і ўдарнікаў, калгасаў, загадчыкаў жывёлагадоўчых фэрм і актыву сельсаветаў.

Даручыць Наркамзему ў дэкадны тэрмін распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па рэалізацыі гэтай дырэктывы (сродкі, літаратура, кіраўнік і формы агразоатэхвучобы) і ўнесьці на разгляд ЦК.

б) Арганізаваць работу калгаснай брыгады такім чынам, каб у ёй асяроджвалася ажыцьцяўленьне канкрэтных мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці (масавая агрападрыхтоўка брыгадзіраў, вытворчыя нарады ў брыгадах і агранарады ўсяго складу брыгады). Іменна калгасная брыгада будзе галоўным чынам вырашаць задачу ўздыму ўраджайнасьці. Выходзячы з гэтага, неабходна сканцэнтраваць увагу калгасаў на пытаньнях усямернага ўзмацненьня вытворчых брыгад і замацаваньне іх сталага складу. У прыватнасьці, права выхаду на веснавую сяўбу кожная брыгада павінна атрымаць і даскана распрацаваць канкрэтныя заданьні па ўздыме ўраджайнасьці асобных культур.

13. Пленум ЦК КП(б)Б прапануе рашуча пакончыць з няправільным скарыстаньнем спэцыялістаў сельскай гаспадаркі (загрузка канцэлярскай работай і г. д.), абавязаўшы зямельныя органы забясьпечыць скарыстаньне кожнага агранома, вэтдоктара і зоатэхніка на непасрэднай вытворчай рабоце (ня менш 80 проц. часу працаваць непасрэдна ў саўгасах, калгасах на полі).

Аграспэцыялісты павінны зьявіцца актыўнымі арганізатарамі барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці і несьці за гэту справу поўную адказнасьць.

Даручыць СНК забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё дырэктыў партыі аб паляпшэньні матар'яльна-бытавога становішча агразоаспэцыялістаў таксама, як і ў адносінах інжынэрна-тэхнічных работнікаў у прамысловасьці, мабілізаваць і накіраваць па сваёй спэцыяльнасьці ўсіх агразоаспэцыялістаў, няправільна і непрадукцыйна скарыстоўваемых як у цэнтральных, так і раённых апаратах.

Выходзячы з задач барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці і ўкараненьне агразоатэхнікі ў сельска-гаспадарчую вытворчасьць,—даручыць бюро ЦК на працягу 2-х месячнага тэрміну разглядзець ва ўсім аб'ёме пытаньне аб парадку, сыстэме і якасьці падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спэцыялістаў сельскай гаспадаркі, устанавіць праграму і аб'ём падрыхтоўкі ў 1933 г. масавых кадраў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пытаньні якаснага падбору і ўкамплектаваньня.

Папярэдзіць РК КП(б)Б, што невыкананьне пляну падрыхтоўкі масавых кадраў будзе разглядацца, як недаацэнка важнейшага рашэньня партыі аб павышэньні ўраджайнасьці.

Даручыць бюро ЦК на прыкладзе прапгруп арганізаваць і накіраваць у раёны агратэхпрапгрупы ЦК.

14. Ня гледзячы на тое, што ў радзе навукова-дасьледчых устаноў (Менская балотная станцыя, Горацкая ільняная, Тураўская кармавая) ёсьць пэўныя дасягненьні ў цэлым, работа навукова-дасьледчых устаноў зьяўляецца нездавальняючай, асабліва ў сэнсе ўкарэньня гэтых дасягненьняў у саўгасную і калгасную вытворчасьць. У гэтым вінаваты як самі навукова-дасьледчыя ўстановы, так і, галоўным чынам, гаспадарчыя арганізацыі. Указаньні лістападаўскага пленуму ЦК (1931 г.) аб нездавальняючай рабоце с.-гасп. навукова-дасьледчых устаноў ня ўлічаны імі і ня зроблены адпаведныя ў рабоце вывады, якія выцякаюць з гэтых указаньняў.

Пленум даручае бюро ЦК намеціць мерапрыемствы па лініі ўмацаваньня работы навуковых с/г. устаноў (пытаньні сеці, кадраў), маючы на ўвазе неабходнасьць устанаўленьня шчыльнейшай сувязі работы навукова-дасьледчых устаноў з канкрэтнымі запатрабаваньнямі саўгасаў і калгасаў.

15. Пленум даручае бюро ЦК КП(б)Б прыняць усе меры да выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб ВКСГШ, да ўмацаваньня работы ВКСГШ (умацаваньне выкладчыцкім складам і забесьпячэньне ўсімі неабходнымі вучэбнымі матар'ямі, памяшканьнямі і інш.) і прапануе райкомам зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на адбор кандыдатур, пасылаемых у ВКСГШ для вучобы.

### VI. Аб умацаваньні работы саўгасаў.

16. Пленум лічыць, што саўгасы павінны заняць вядучую ролю ў барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці і ўкараненьне агразоотэхнікі. Выходзячы з гэтага, сканцэнтраваць асноўную ўвагу ў рабоце саўгасаў на: а) гаспадарчым асваеньні зямель і завяршэньні будаўніцтва ва ўжо арганізаваных саўгасаў; б) павышэньні выпуску прадукцыі, рэнтабельнасьці працы саўгасаў і зьніжэньні сабекошту; в) барацьбе са злачынна-безгаспадарчымі, у радзе выпадкаў, адносінамі да дзяржаўнай маемасьці; г) стварэньні і сапраўдным умацаваньні кадрамі гаспадарнікаў і палітычных работнікаў, здольных ажыцьцявіць ўскладзеныя на саўгасы задачы; д) арганізацыі і павышэньні прадукцыйнасьці працы, стварэньні пастаянных рабочых кадраў і ўзмацненьні масава-палітычнай працы сярод рабочых саўгасаў і паляпшэньні іх матар'яльна-бытавога становішча.

Пленум ЦК ухваляе рашэньне бюро ЦК аб арганізацыі ўпаўнаркамсаўгасаў, што павінна забясьпечыць значнае паляпшэньне канкрэтнага і апэрацыйнага кіраўніцтва саўгасамі. Даручыць бюро ЦК на падставе гэтага на працягу сьнежня—студзеня м-ца разглядзець рад канкрэтных пытаньняў далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.

Абавязаць ЦСПСБ у адпаведнасьці з гэтым рашэньнем забясьпечыць канкрэтнае кіраўніцтва з боку саюзу сельгасрабочых у адносінах паляпшэньня работы рабачкомаў, арганізацыі працы і палепшаньня масава-палітычнай работы.

### VII. Аб умацаваньні работы МТС

17. Даручыць Наркамзему перабудаваць работу МТС так, каб задачам барацьбы за ўраджай была падпарадкавана бягучая агравытворчая работа МТС, маючы на ўвазе, што МТС павінна стаць кіраўнікамі калгасаў ня толькі ў галіне ўжываньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне аграноміі, арганізацыі працы, перавыхаваньні калгасных мас. Выходзячы з гэтага, даручыць бюро ЦК у сьнежні месяцы абгаварыць і вырашыць усе пытаньні, зьвязаныя з паляпшэньнем работы МТС, асабліва вытворчых участкаў і ўзмацненьнем іх гаспадарчымі агратэхнічнымі кадрамі і вопытнымі працаўнікамі.

### VIII. Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў

18. У сувязі з задачамі барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці, пытаньне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў набывае асаблівае значэньне.

У якасьці асноўных задач у галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў павінна быць:

а) стварэньне і згуртаваньне сапраўды магутнага калгаснага актыву, здольнага забясьпечыць правядзеньне дырэктыў партыі ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці, сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў, барацьбы з дробна-буржуазнымі рвацкімі тэндэнцыямі ў калгасах з кулацкім уплывам, кулаком і яго агентурай.

б) Пленум прапануе зьвярнуць выключную ўвагу на ўмацаваньне асноўнага вытворчага зьвяна калгаснай вытворчасьці—брыгады, шляхам павышэньня яе зацікаўленасьці ў калектыўнай працы, устанаўленьня разьмеркаваньня даходаў у залежнасьці ад колькасьці і якасьці затрачанай працы, прымацаваньня брыгад да вытворчых вучасткаў і ўстанаўленьня для кожнай брыгады канкрэтнага вытворчага заданьня і прымацаваньне да брыгады вызначаных сродкаў вытворчасьці.

Склад брыгады павінен абавязкова замацоўвацца на ўвесь сельска-гаспадарчы год (сяўба, догляд ураджаю, уборка).

Катэгарычна забараніць рабіць зьмены ў складзе брыгадзіраў і старшынь калгасаў на працягу году, згодна ўказаньням ЦК УсеКП(б) ад 10 мая 1932 г.

в) Ва ўсёй рабоце калгасу неабходна ўвесьці далей рашучую барацьбу з дробна-буржуазнай кулацкай ураўнілаўкай, з абязьлічкай, рашуча змагацца за поўнае захаваньне калгаснай маемасьці супроць дэзарганізатараў вытворчасьці, гультаёў, людзей, якія любяць пажыць на чужы кошт, супроць разгільдзяйства, расхлябанасьці ў рабоце калгасу, за стварэньне сацыялістычнай працоўнай дысцыпліны і ўстанаўленьне большай адказнасьці за даручаную работу і зацікаўленасьцю ёю як калгасу ў цэлым, так і кожнага паасобнага калгасьніка.

19. Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае партыйныя, савецкія і зямельныя арганізацыі ва ўсёй рабоце кіравацца тым, каб забясьпечыць самае канкрэтнае кіраўніцтва вывучэньня і веданьня калгасаў, каб усе вытворчыя заданьні па загатоўках і здачы таварнай прадукцыі, арганізацыі працы і г. д. абавязкова абгаварваліся шырока разам з калгасным актывам і калгасьнікамі. Гэта патрабуе рашучага ўстраненьня і барацьбы з камандваньнем, грубым адміністраваньнем, непрадукцыйнымі выдаткамі ў калгасах (адміністрацыйна-кіруючымі); праводзячы гэтыя мерапрыемствы неабходна выхоўваць у кожнага калгасьніка пачуцьцё адказнасьці за становішча ўсяго калгасу, разьвіваць шырока мэтады сацыялістычнай працы (сацспаборніцтва, ударніцтва, буксіру і інш.).

20. Пленум ухваляе пастанову ЦК аб разьмеркаваньні даходаў у калгасах за 1933 год і прапануе ўсім партыйным, савецкім і зямельна-калгасным арганізацыям, кіруючыся гэтай пастановай, зьвярнуць у бліжэйшы час асноўную ўвагу на задачы правільнага разьмеркаваньня даходаў у калгасах.

Пры разьмеркаваньні даходаў у калгасах неабходна кіравацца наступным указаньнем СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 5 ліпеня 1932 г.

„у адпаведнасьці з гэтым павінна быць забясьпечана паўсямернае правядзеньне ва ўсіх калгасах брыгадных (групавых) мэтадаў зьдзельшчыны з тым, каб у залежнасьці ад якасьці работы брыгады (разьмеры страт, тэрміны ўборкі і вывазу абмалоту збожжа і тэхнічных культур) і ацэнка каштоўнасьці працадня (або колькасьць выпрацаваных працадзён) для брыгады і брыгадзіра павышалася, або паніжалася праўленьнем калгасаў у межах ад 10—20 проц. Разьмеркаваньне даходаў самым шчыльным чынам зьвязаць з поўным і сваячасовым выкананьнем пляну загатовак, стварэньнем насенных і страхавых фондаў.

21. Ухваляючы рашэньне бюро ЦК аб рэарганізацыі Наркамзему, ліквідацыі Калгасцэнтру і Райкалгассаюзу, пленум прапануе сканцэнтраваць асноўную ўвагу ў рабоце Наркамзему і яго органаў на

мясцох, на рабоце МТС і калгасна-таварных фэрм, абавязаўшы ўсе партыйныя арганізацыі надаць гэтай арганізацыі выключнае значэньне з тым, каб палепшыць канкрэтнае апэрацыйнае кіраўніцтва МТС і калгасамі, а таксама прыняць канкрэтныя меры да ўмацаваньня кадрамі раённага зьвяна зямельных органаў.

22. Створаная сыстэма Сацзембанку па вытворчым доўгатэрміновым крэдытаваньні калгасу і фінансаваньне дзяржсэктару сельскай гаспадаркі (саўгасы, МТС і інш.) павінны ўсю сваю работу шчыльна ўвязаць з мерапрыемствамі, якія садзейнічаюць павышэньню ўраджайнасьці і хутчэйшай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Неабходна разгарнуць работу:

а) па сваячасовым і поўным скарыстаньні дзяржаўных крэдытаў, а таксама эфэктыўным скарыстаньні іх з максымальнай мабілізацыяй калгасных сродкаў, як мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці (угнаеньне, машына, камплектаваньне і г. д.), так і агульнае гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў;

б) па поўным ажыцьцяўленьні кантролю рублём і рашучым укараненьні гаспадарчага разрахунку ў справе фінансаваньня саўгасаў, МТС, жорстка праводзячы фінансавы кантроль па мэтавым і эфэктыўным скарыстаньні бюджэтных сродкаў.

У сувязі з гэтымі мерапрыемствамі арганізаваная сыстэма Сацзембанку набывае вялікае значэньне, таму пленум прапануе Наркамфіну, Наркамзему і ўсім РК і РВК аддаць належную ўвагу гэтай сыстэме і ўсямерна дапамагаць Сацзембанку ў выкананьні пастаўленых перад ім важнейшых задач.

23. Дасягнутыя посьпехі па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў адчуліся ў тым, што па радзе раёнаў ёсьць прылiў бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў калгасы. Партыйныя, савецкія і зямельныя арганізацыі павінны разгарнуць масавую работу па папулярызацыі сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі посьпехаў у калгаснай вытворчасьці аб павышэньні прыбытку калгасьніка і далейшых задач калгаснага будаўніцтва.

24. Барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, правядзеньне падрыхтоўкі і выкананьне пляну веснавой сяўбы павінны абавязкова суправаджацца шырокай масава-палітычнай работай сярод беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў, якія займаюць як у агульнай колькасьці, так і ў пляне сяўбы, значнае месца.

Пленум папярэджвае ўсе партыйныя, савецкія і зямельныя органы і абавязвае весьці барацьбу з недаацэнкай аднаасобнага сэктару. Практычнымі мерапрыемствамі ў гэтай галіне павінна быць: поўнае выкананьне пляну сяўбы і мабілізацыі ўсіх насенных рэсурсаў, аказаньне аднаасобнікам агратэхдапамогі (ачыстка, пратручваньне, радавы пасеў і інш.), арганізацыя рамонту і снабжэньне інвэнтаром; барацьба за пасеў аднаасобнікамі ва ўстаноўленыя тэрміны; давядзеньне цьвёрдых заданьняў да кулацка-заможных гаспадарак і рашучая барацьба з сабатажам сяўбы кулацкімі элемэнтамі.

Стварыць у аднаасобных сэктарох страхавыя фонды ў размеры ад 7 да 10 проц. ад насенфондаў. Для ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства неабходна практыкаваць выбары ў кожным сельсавеце камісіі садзейнасьці стварэньню страхавых фондаў.

25. Пленум прызнае работу партыйных, прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый па павышэньні ўраджайнасьці ў прыгарадных гаспадарках—нездавальняючай.

Пленум даручае СНК спэцыяльна распрацаваць пытаньне аб рэканструкцыі сельскай гаспадаркі прыгараднай зоны з тым, каб дабіцца ўжо ў 1933-1934 г. г. забесьпячэньня пралетарскіх цэнтраў гароднінай і бульбай за кошт гэтых зон.

Абавязаць гарадзкія і раённыя камітэты партыі аддаць значна больш увагі пытаньням кіраўніцтва і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі прыгарадных зон.

26. Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае цэнтральны і раённы друк сапраўды па-бальшавіцку мабілізаваць шырокія масы рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікаў, беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў на барацьбу за павышэньне ўраджайнасьці, падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы. У барацьбе за гэтыя задачы друк павінен праявіць выключную чоткасьць, апэрацыйнасьць, паваротлівасьць, шырока асьвятляць і распаўсюджваць перадавы вопыт, рашуча ўскрываючы і бічуючы расхлябанасьць і непаваротлівасьць, неканкрэтнае кіраўніцтва і праваапартуністычныя адносіны да гэтых важнейшых задач з боку асобных арганізацый і камуністаў.

27. Пленум даручае ЦК ЛКСМБ распрацаваць і ўнесьці на разгляд ЦК КП(б)Б усе пытаньні, зьвязаныя з роляй і ўдзелам камсамолу ў барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці і выкананьне пляну веснавой сяўбы.

СНК і фракцыі ЦВК распрацаваць пытаньне аб удзеле і павышэньні ролі саветаў у барацьбе за ўраджайнасьць і выкананьне пляну веснавой сяўбы. Фракцыі ЦСПС—аб удзеле ролі прафсаюзу ў барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці і выкананьне пляну веснавой сяўбы.

Абавязаць СНК і Дзяржплян на працягу месячнага тэрміну ўнесьці на разгляд ЦК пытаньне палепшэньня плянаваньня сельскай гаспадаркі і вывучэньня эканомікі раёнаў.

28. Барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сяўбы будзе праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва і клясава-варожыя элемэнты будуць імкнуцца арганізаваць сабатаж і супраціўленьне справе барацьбы за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі. Таму, задача партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый і кожнага камуніста заключаецца ў тым, каб у яшчэ большай ступені мабілізаваць партыйныя рады, згуртаваўшы масы калгасьнікаў, беднякоў і серадняков—аднаасобнікаў, калгасьніц і аднаасобніц, перабудаваць усю работу так, каб яна забясьпечыла сапраўднае выкананьне гэтых павышэньня патрабаваньняў да ўсіх партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый.

Неабходна правесьці рашучую ачыстку партыйных арганізацый ад усіх разлажыўшыхся камуністаў, якія фактычна ператварыліся ў простых агентаў клясавага ворага ў радох партыі, зрасьліся з кулацтвам і іншымі клясава-варожымі элемэнтамі, ад усіх тых, якія маюць партбілет у кішэні, але даўно ўжо перарадзіліся і на справе парвалі з партыяй. Толькі пры гэтых умовах, у рашучай барацьбе з клясавым ворагам і яго агентурай, з правым і „левым“ апартунізмам, з дзедаўскімі традыцыямі і супраціўленьнем укараненьню ў сельскую гаспадарку перадавой тэхнікі і апошніх дасягненьняў навукі—будзе забясьпечана пасьпяховае правядзеньне мерапрыемстваў партыі па павышэньні ўраджайнасьці, арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, правядзеньне веснавой сяўбы і сацыялістычным перавыхаваньнем калгасных мас.

„Толькі пры дапамозе агульнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з таго тупіку, у які загнала нас імпэрыялістычная вайна“ *(Ленін)*

# Дэманструем перамогу калектыўнай гаспадаркі

*(Слуцкі раён)*

Разьмеркаваньне ўраджаю і даходаў у калгасе „1-е Мая“ Слуцкага раёну ператварылася ў сапраўдную дэманстрацыю перавагі буйнай калектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай. Калгасьнікі канкрэтнымі паказчыкамі павышэньня сваей даходнасьці і паляпшэньня сваіх матар'яльна бытавых умоў дэманструюць свае перамогі, атрыманыя ў барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу, у жорсткай клясавай барацьбе.

У мінулым годзе калгас стаяў на парозе развалу. Група кулакоў і спэкулянтаў, захапіўшы кіраўніцтва калгасам, усяляк шкодзіла і давяло ўвесну калгасную жывёлу да надзвычайна цяжкага становішча. Праўленьне калгасу безгаспадарнічала, разбазарвала калгасную маемасьць, і даходнасьць калгасьнікаў таму была нізкая. Але пры намаганьні калгасьнікаў і дапамозе райкому партыі былое праўленьне было аддана пад суд, пастаўлена новае здаровае кіраўніцтва. Калгасьнікі па-ўдарнаму мабілізаваліся на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу.

Калгас „1-е Мая“ адным з першых у раёне з гонарам перавыканаў пляны па здачы (продажу) дзяржаве збожжа і бульбы. Паслана для рабочых пралетарскіх цэнтраў больш дзесяткаў вагонаў рознай гародніны.

Атрыманы ўзорныя паказчыкі ў разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі. СТКФ і МТКФ калгасу добра падрыхтаваны да зімоўкі жывёлы.

Калгас „1-е мая“ зьяўляецца першым ініцыятарам у раёне разгортваньня калгаснага гандлю. Калгас меў у Слуцку свой уласны ларок з мая месяца гэтага году для продажу сваей дадатковай прадукцыі. Прадана было праз гэты ларок да 1 лістапада рознай гародніны: бульбы 40 *цнт*, капусты 34,5 *цнт*, гуркоў 60 *цнт*, памідораў 14,5 *цнт*, а таксама моркаў, бручка, ягады, малако, яблыкі, ігрушы і г. д. Ад калгасных базараў калгас выручыў каля 20 тысяч 280 рублёў.

У выніку гэтых значных перамог у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў значна павысілася даходнасьць калгасьнікаў.

Пасьпяхова праведзеныя гаспадарча-палітычныя кампаніі, правільная арганізацыя працы ў калгасе ва аснове сталых вытворчых брыгад, разгортваньне калгаснага гандлю—вось умовы павышэньня даходнасьці калгасьнікаў.

Гэта яскрава паказана пры разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў. На 1 працадзень у калгасе прыпадае натурай: жыта 1 *кг*, пшаніца 200 *гр*, ячменю 325 *гр*, аўса 384 *гр*, бульбы 5,200 *кг*, капусты 320 *гр*, гуркоў 220 *гр*, морквы 160 *гр*, буракоў сталовых 2 *кг* і грашыма 3 р. 79 кап.

Зараз калгасьнікі мабілізуюцца да яшчэ большых перамог, за аўладаньне аграрнай навукай і тэхнікай за павышэньне сацыялістычнага ўраджаю.

У барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці калгасьнікі калгасу „1-га Мая“ таксама атрымаюць буйныя перамогі. Павышэньне ўраджайнасьці, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу яшчэ больш павысіць даходнасьць калгасьнікаў.

**М. Хаўкін.**

## Абязьлічка — вораг калгаснай вытворчасьці





Фото-апарат дапамог. На здымку ўверсе выгляд калгаснага двара калгасу „Бальшавік“, Чырв.-Слабоцк. раёну раніцай. Унізе на здымку выгляд таго-ж самага двара ўвечары таго-ж самага дню пасьля таго як была засьнята безгаспадарчасьць.

# ПРАВІЛЬНАЕ РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ ДАХОДАЎ ВЫКЛІКАЛА ПРЫЛІЎ У КАЛГАСЫ

*(Вузьдзенскі раён)*

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, апіраючыся на калгасны актыў, даючы рашучы адпор клясаваму ворагу—кулаку, шмат к-саў Вузьдзенскага раёну арганізацыйна - гаспадарча ўмацаваліся.

Кулацтва на ўсіх вучастках падрывае калгаснае будаўніцтва. Вясною, з прычыны кулацкай агітацыі, атрымаўся невялікі па раёну адліў з калгасаў. Кулакі і кулацкія агенты пралазілі ў калгас з мэтай разбурэньня яго знутры. Яны выступалі супроць арганізацыі сталых вытворчых брыгад, аказывалі супраціўленьне пры разьмеркаваньні ўраджаю і ар-

ганізоўвалі сабатаж загатовак. Але на ўсіх вучастках кулак атрымаў паражэньне.

Кулацкі сабатаж у загатоўках зломлен. Рад калгасаў, як „Дзяржынскі“, „Будзённы“ (Прысынкаўскі сельсавет), „Памяць Леніна“ і інш., улічваючы свае магчымасьці, высунулі сустрэчныя пляны загатовак, якія ўжо выкананы.

Такім чынам бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ўбачылі, што тыя калгасы, якія правільна расставілі працоўную сілу, стварылі сталыя вытворчыя брыгады, ліквідавалі абязьлічку і ўнядрылі зьдзельшчыну, — атрымалі надзвычайна добрыя вынікі.

Асабліва яскрава пераконваюцца аднаасобныя гаспадаркі на выніках разьмеркаваньня даходаў у калгасах.

Вось прыклады. Калгасьнік **Адамовіч** Сьцяпан калгасу „Будаўнік“ Камяноцкага сельсавету да ўступленьня ў калгас заўсёды меў недастатак хлеба і ня меў сродкаў на пакупку адзеньня. У гэтым годзе на 7 едакоў пры 4 працаздольных ён выпрацаваў 725 працадзён і атрымлівае з калгасу на свае працадні: жыта 14,5 *цнт*, бульбы—46 *цнт*, крупяных—7 *цнт*, аўсу—142 *кг*, ячменю 72 *кг*, пшаніцы—150 *кг*, сена 7,28 *цнт*, саломы 8,5 *цнт* і грашыма 725 руб. Зараз гаспадарка Адамовіча Сьцяпана ня толькі мае з дастаткам хлеба, але мае мажлівасьць прадаць на калгасным рынку і купіць сабе патрэбнае адзеньне.

Гаспадарка калгасьніка **Барэйшы** Янкі з калгасу „Навіна“ Сл.-Пырашаўскага сельсавету пры меншай колькасьці едакоў на свае 739 працадзён атрымлівае: жыта 12,56 *цнт*, ячменю 4,43 *цнт*, грэчкі—81 *кг*, гароху — 40 *кг*, бульбы 64,34 *цнт*, ільнавалакна 51,7 *кг*, сена 8,86 *цнт*, саломы 13 *цнт* і мякіны 4,43 *цнт*. **Верташ** Амельлян да ўступленьня ў калгас лічыўся бедняком. Хаты свае ня меў, 4 *га* зямлі, якую яму далі, ён ня мог апрацаваць, бо ня было сельска-гаспадарчага інвэнтару і цягавай сілы. Зараз ён у калгасе „Дзяржынск“ Хатлянскага сельсавету; за 1932 г. за свае 560 працадзен атрымаў з калгасу: жыта 9,68 *цнт*, ячменю 13 *цнт*, грэчкі 39 *кг*, гароху 117,5 *кг*, саломы — 8,5 *цнт*, сена 4 *цнт* і грашыма 56 руб.

Усе гэтыя гаспадаркі акрамя гэтага маюць сваю ўласную гаспадарку, якая складаецца з адной каровы, ад 0,5 да 1 *га* ўсадзьбы і дробнай жывёлы.

Магчыма-б для характарыстыкі прывесьці яшчэ шмат гаспадарак, але і гэтых досыць, каб на практыцы пераканацца ў перавагах буйнай калектыўнай гаспадаркі перад аднаасобнай дробнай.

Іменна гэтыя перавагі і правільнае разьмеркаваньне даходаў у калгасах выклікалі прылў у калгасы. Днямі ў калгас **„Будаўнік“ прынята 2 гаспадаркі**, у калгас **„Сталіна“** Магільнянскага сельсавету—**6 гаспадарак**, у калгас **„Зьвязда“—6 гаспадарак**, у калгас **„Навіна“—1 гаспадарка**, **„Новае жыцьцё—2 гаспадаркі**, **„Молатаў“—3 гаспадаркі**, **„Авангард“—2 гаспадаркі**, **„Свабода—2 гаспадаркі**, у калгасы **„Перамога“**, **„Першамайск“**, **„Памяць Леніна“ уступіла 7 гаспадарак** і ў шмат іншыя калгасы штодзённа падаюць заявы бядняцка-серадняцкія гаспадаркі.

Калгасы, якія яшчэ ня скончылі канчатковага разьмеркаваньня даходаў, павінны як найхутчэй разьмеркаваць даходы і па прынцыпу „хто больш і лепш працаваў, той павінен і больш атрымаць“. Гэта зьявіцца лепшым агітатарам за калектывізацыю і паслужыць далейшым арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў.

**Юрка Снытко.**

# Усебеларускі сьпіс гонару

## заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ўраджай

25) **Калгас „Ніўны Бор“**, Чэрвенскага раёну ў параўнаньні з 1931 годам значна павысіў ураджайнасьць сваіх палёў. Калі ў 1931 годзе ўраджай ячменю з аднаго *га* складаў 11,1 *цнт*., дык у 1932 годзе—13,5 *цнт*.

Значна павысіўся і ўраджай лубіну — замест 8 *цнт* у 1931 г., калгас атрымаў у 1932 годзе — 10,5 *цнт* з гэктара.

26) **Калгас „Ударнік 2-й бальшавіцкай сяўбы“** Лельчыцкага раёну вельмі многа аддае ўвагі павышэньню ўраджайнасьці.

Дзякуючы ўнядрэньню агратэхнікі ва ўсе працэсы апрацоўкі глебы і ўжываньню ўсіх відаў угнаеньняў калгас дабіўся значнага павышэньня ураджайнасьці. Так, у 1932 г. 1 гэктар даў 16,8 *цнт*, ячменю і 12,3 *цнт* пшаніцы.

27) **У калгасе „Найвег“**, Чэрвенскага раёну, у 1931 годзе ўраджай пшаніцы быў 8,5 *цнт* з гэктара, а ў 1932 годзе атрымана 10 *цнт*.

Гэтага павышэньня ўраджайнасьці калгас дабіўся дзякуючы высокаякаснай апрацоўцы глебы, ранняму тэрміну сяўбы і ўнясеньню мінэральных угнаеньняў.

28) **Калгас „Шлях Леніна“**, Чырвона-Слабодзкага раёну дабіўся значнага павялічэньня ўраджаю на сваіх палёх. Напрыклад, у 1931 годзе 1 гэктар даваў 10 *цнт* пшаніцы, а ў 1932—13 *цнт* з *га*.

Гэтага павялічэньня ўраджайнасьці калгас дабіўся таму, што пшаніца сеялася па занятому папару.

29) **Саўгас „Боркі - Белявічы,** Чырвона-Слабодзкага раёну атрымаў у 1932 годзе найвышэйшы па раёне па жыту і пшаніцы. Так, гэктар даў 13,5 *цнт* жыта, пшаніцы азімай—14 *цнт*.

Павышэньня ўраджайнасьці саўгас дабіўся дзякуючы высоякаснай апрацоўцы глебы і пасеву азімых (жыта і пшаніца) па занятаму папару.

# Разгарнем масавую агразоотэхпрапаганду

Вялізарныя посьпехі ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі, якія намі дасягнуты на базе шпаркага росту індустрыялізацыі краіны, патрабуюць аўладаньня тэхнікай буйнага сацыялістычнага земляробства.

Згодна пастановы Наркамзему БССР ад 26 сьнежня 1932 г. аб разгортваньні агратэхпрапаганды ў раёне,—пры кожным Райза і МТС павінен быць спэцыяльна вылучаны работнік па тэхпрапагандзе. Масавая вытворчая тэхпрапаганда павінна разгортвацца на аснове арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і выкананьня пастаўленых партыяй і ўрадам задач аб павышэньні ўраджайнасьці сацыялістычных палёў і павялічэньні прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі.

Галоўны ўпор масавай тэхпрапаганды патрэбна сканцэнтраваць на вытворчай брыгадзе калгасу. Брыгада—ёсьць наша асноўная вытворчая ячэйка ў калгасе. Выключную ролю ў справе тэхпрапаганды павінны адыграць **МТС**, якія—„**павінны стаць кіраўнікамі калгасаў ня толькі ў галіне ўжываньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне аграноміі**“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Партыяй і ўрадам пастаўлена задача „**ад росту гаспадаркі ўшырыню шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў павярнуць да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці**“. Для вырашэньня гэтай задачы патрэбна, каб усе работнікі сельскай гаспадаркі разгарнулі шырокую работу па аўладаньню агратэхнікай масамі калгасьнікаў, рабочымі саўгасаў і МТС. Уся масавая агратэхвучоба праводзіцца ў вольны ад работы час без адрыву ад вытворчасьці.

Асноўнай формай масавай агразоотэхвучобы ў зімовы пэрыяд павінны быць гурткі. Гурткі па вывучэньні розных галін гаспадаркі (паляводзтву, гародніцтву, садоўніцтву, сьвінагадоўлі, трусагадоўлі, птушніцтву і г. д.) арганізуюцца ў самой саўгаснай, альбо калгаснай брыгадзе, калі маецца дастатковая колькасьць пісьменных слухачоў і адпаведныя кіраўнікі, альбо пры калгасе ў цэлым. У тых выпадках, калі ў брыгадзе мала слухачоў (невялікі калгас)—у гурток могуць уваходзіць усе калгасьнікі.

Праца гуртка брыгады павінна быць цесна ўвязана з практычнай штодзённай работай брыгады, выходзячы з заданьня сельска-гаспадарчай вытворчасьці, з заданьня брыгады і ўсяго калгасу ў цэлым.

Гурткі па вывучэньню сельска-гаспадарчых машын арганізуюцца пры МТС і ў саўгасах. Кожны калгас павінен вылучыць некалькі калгасьнікаў, якія-б наведвалі бліжэйшыя гурткі па вывучэньню сельска-гаспадарчых машын. Заняткі па вывучэньню машын павінны праводзіцца непасрэдна каля саміх машын, разьбіраючых іх, каб азнаёміцца з кожнай часткай машыны і ўмець працаваць на гэтых машынах.

Таксама могуць быць арганізаваны гурткі і пры чырвоных кутках, хатах-чытальнях, у якія (гурткі) уваходзяць такія калгасьнікі, як пчаляры, трусаводы і інш., а таксама уцягваюцца працоўныя аднаасобнікі. Іншымі мэтадамі масавай вучобы могуць быць: аграгадзіны, правадзімыя ў брыгадах, калгасах, хатах-чытальнях; курсы-канфэрэнцыі пры МТС, Райза; вячэрнія школы і г. д.

У кожным раёне неабходна сабраць усе сілы кіраўнікоў агразоотэхвучобы. Пры наліччы спэцыялістаў лепш за ўсё, каб кіравалі гурткамі яны, але ў большасьці выпадкаў на спэцыялістаў прыходзіцца арыентавацца як на кіраўнікоў—інструктароў агразоотэхнічнай вучобы.

Кіраўнікамі гурткоў, арганізуемых у брыгадах, павінны быць брыгадзіры.

Брыгадзір павінен адказваць за становішча агратэхвучобы ў яго брыгадзе—гуртку, таксама, як і за выкананьне яго брыгадай вытворчых заданьняў. Брыгадзіраў патрэбна прапусьціць праз кароткатэрміновыя курсы і ў далейшым сыстэматычна інструктаваць іх.

Для лепшай падрыхтоўкі брыгадзіраў і больш пасьпяховага правядзеньня масавай агратэхвучобы ўвесь раён разьбіваецца на вучасткі. Прычым, у раёне дзейнасьці МТС такімі вучасткамі зьяўляюцца вытворчыя вучасткі МТС, а там, дзе няма МТС, ствараюцца вучасткі з цэнтрам у саўгасах, альбо буйнейшых калгасах. Да кожнага вучастку прымацоўваюцца сельска-гаспадарчыя спэцыялісты.

Брыгадзіры—кіраўнікі гурткоў пэрыядычна (прыкладна раз у дэкаду) зьбіраюцца ў цэнтр вучастку, дзе яны прапрацоўваюць сумесна з прымацаванымі спэцыялістамі той, ці іншы разьдзел праграмы. Тут-жа даюцца мэтадычныя ўказаньні брыгадзірам і праводзіцца абмен вопытам сваёй вытворчай і вучэбнай работы. Пасьля чаго брыгадзір праводзіць заняткі ў сваёй брыгадзе.

Спэцыялісты пэрыядычна павінны наведваць заняткі гурткоў, дапамагаць ім. Акрамя гэтага дапамагаць гурткам павінны актыў калгасу, вучні ШКМ апошніх курсаў, студэнты—практыканты ВНУ і Тэхнікумаў, настаўнікі, ізбачы і г. д.

Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў сьнежні месяцы 1932 г., падкрэсьліў усю „**важнасьць і неабходнасьць аўладаньня агразоотэхнікай і тэхнікай буйнай сацыялістычнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці, без чаго немагчыма канкрэтнае і глыбокае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, немагчыма разгортваньне бальшавіцкай барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў**“.

У дапамогу кіраўніку і членам гуртка павінны быць створаны бібліатэчкі. Літаратура гэтых бібліатэчак павінна забясьпечваць дасканалыя адказы на ўсе пытаньні, закранутыя ў праграме.

Як падручнік для тэхвучобы, таксама патрэбна выкарыстоўваць раённыя газэты, у якіх трэба зьмяшчаць на сэзонныя тэмы агразоотэхнічныя артыкулы,



Аднаасобнік т. Бурмака, Чырвонаслабодакага с-с, які за выкананьне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай атрымаў ільготу па аднаразоваму падатку.

зьменныя палосы, прыстасаваныя да чырвоных заняткаў.

У час праходжаньня вучобы і пасьля сканчэньня ўсей праграмы трэба ўтвараць праверку ведаў. Гэтая праверка павінна насіць жывы характар—тэхбой, вечар пытаньняў і адказаў і г. д. За лепшыя посьпехі выдаваць граматы і іншыя прэміі.

Увядзеньне правільных севазваротаў, якасная апрацоўка глебы, скарочаныя тэрміны сяўбы і ўборкі, выкарыстаньне ўсіх відаў угнаеньня; барацьба за заняты папар, барацьба з пустазельлем, шкоднікамі і хваробамі расьлін; аўладаньне машынай; барацьба за маладняк, за стварэньне моцнай кармовай базы; унядрэньне новых культур; барацьба са стратамі,—вось тыя шляхі, па якіх павінна праводзіцца работа—па выкананьні пастаўленых партыяй і ўрадам задач аб павышэньні сацыялістычнага ўраджаю, аб павышэньні калгаснай вытворчасьці.

Усю агротэхпрапаганду трэба накіраваць на выкананьне гэтых задач. Кожны работнік сельскай гаспадаркі павінен ведаць пастаўленыя партыяй задачы ў галіне ўздыму ўраджайнасьці і настойліва змагацца за іх ажыцьцяўленьне.

Ня можа быць тэхпрапагандыста, які ня ведае, што ў 1933 г. мы павінны асвоіць пад яравы клін 2.680 тыс. *га*, з іх пад збожжавыя 1.355 тыс. *га*, тэхнічныя 273 тыс. *га*, бульбу 617 тыс. *га*. Ня можа быць тэхпрапагандыста, які ня ведае, што ў 1933 г. ўраджай збожжавых культур патрэбна давесьці ня менш, як 8,5 *цнт* з *га*, бульбы—110 *цнт*, лёну—2 *цнт з га*.

Кожны тэхпрапагандыст, кожны работнік сельскай гаспадаркі павінен ведаць колькасныя і якасныя паказчыкі ў галіне жывёлагадоўлі. У 1933 г. мы павінны давесьці пагалоўе буйнай рагатай жывёлы да 1.557 тыс. галоў, з іх па саўгасах 73,9 тыс., а па калгасам 460,4 тыс. гал. Мы павінны дабіцца, каб пры здачы жывая вага быкоў дасягала 2,5 *цнт*, кароў—3 *цнт*, нецелей—2,5 *цнт*, удой з 1 каровы ў год павінен быць у саўгасах ня менш 87 проц. ад усіх кароў. Пагалоўе сьвіней за 1933 г. патрэбна давесьці да 1.650 галоў, убойную вагу 9 мес. узросту да 52 кілёгр.

Наша задача: паказаць і расказаць шырокім колам калгасьнікаў, што правільны севазварот павялічвае ўраджай ня менш як на 25 проц., што раньнія і скарочаныя тэрміны сяўбы маюць вялікі ўплыў на павялічэньне ўраджайнасьці.

Масы калгасьнікаў павінны ведаць тэхніку ўнясеньня ўсіх відаў угнаеньня. Наша глеба патрабуе шмат спажыўных матэрый на восстанаўленьне тых матэрый, якія ўзяты з глебы расьлінамі. Калгасьнік павінен ведаць, якую карысьць даюць мінэральныя ўгнаеньні—попел, торф, кампост, сідэрацыя і інш. Вось, напрыклад, саўгас Наталеўск Чэрвенскага р-ну ў 1932 годзе пад жыта не паклаў угнаеньня і навогул ня выконваў агратэхнічных правіл, таму—атрымаў з 1 *га* 1 цэнт. жыта. Тое-ж самае мы бачым і ў саўгасе Дзедова Рагачоўскага раёну, дзе ўраджай яравой пшаніцы быў 2,5 *цнт* з *га*. Іншая справа ў калгасе Найвег, які добра ведае агратэхнічныя правілы, ён атрымаў з *га* 10 цэнтн. пшаніцы.

Мы павінны павесьці барацьбу за заняты папар. У нашых кліматычных умовах з дастатковай вільготнасьцю патрэбна замяніць чыстыя пары—занятымі. Гэта дасьць большую карысьць і дадатковую прадукцыю з адной і той-жа плошчы. Вось калгас „Шлях Леніна" Чырвона-Слабодзкага раёну па занятаму папару сеяў пшаніцу і атрымаў ураджай 13 цэнтн. з *га*, саўгас Боркі-Белявічы таго-ж раёну па занятаму папару атрымаў 14 *цнт* азімай пшаніцы і 13,5 *цнт* жыта з 1 *га*. Гэтыя калгасы пасапраўднаму змагаліся за высокі ўраджай і паказалі, што ў нас для гэтага маюцца ўсе магчымасьці.

Мы ўсё яшчэ адчуваем недахоп у кармох. Патрэбна павесьці рашучую барацьбу за стварэньне ўласнай кармавой базы ў кожнай саўгаснай і калгаснай гаспадарцы, скарыстаўшы для гэтага ўсе магчымасьці (палепшаньне лугоў і выпасаў, пасеў аднагадовых і шматгадовых траў, сіласаваньне, галінковы корм і г. д.). Мы павінны дабіцца ўнядрэньня новых, каштоўных культур, як тапінамбур, соя і г. д.

Трэба рашуча змагацца за выкананьне ўсіх гэтых задач, памятаючы, што агратэхніка—гэта палітычная работа, неразрыўна зьвязаная з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў, з барацьбой з клясавым ворагам за новую сацыялістычную вытворчасьць. Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, што **„барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сяўбы будзе праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва і клясава-варожых элемэнтаў будуць імкнуцца арганізаваць сабатаж і супраціўленьне справе барацьбы за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі. Таму задача партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый і кожнага камуніста заключаецца ў тым, каб у яшчэ большай ступені мабілізаваць партыйныя рады, згуртаваўшы масы калгасьнікаў і беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў, калгасьніц і аднаасобніц, перабудаваць усю работу так, каб яна забясьпечыла сапраўднае выкананьне гэтых павышаных патрабаваньняў да ўсіх партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый"**.

**Н. Бойка.**

# За высокі ўраджай бульбы

У выніку сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі засеўная плошча пад бульбаю ў БССР за першую пяцігодку павялічылася з 468 да 610 тыс. *га*. У параўнаньні з 1913 г. мы маем рост на 249 тыс. *га*. Асабліва шпаркае нарастаньне засеўных плошчаў пад бульбаю наглядаецца ў саўгасах і калгасах.

Індустрыялізацыя краіны і рост буйных прамысловых цэнтраў ставіць перад бульбянаю гаспадаркаю адказьнейшую задачу па бесьперабойнаму забесьпячэньню пралетарскіх цэнтраў стандартнаю сталоваю бульбаю. Тэмпы разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі патрабуюць значнай колькасьці кармоў. Ураджай-жа з *га* бульбы дае кармоў (крухмальных эквівалентаў) у 3,3—3,8 разы больш, чым *га* жыта, ячменю і аўсу.

Бульба зьяўляецца добраю сыравінаю для броварнай прамысловасьці, прадукцыя якой—сьпірытус

патрэбен для нашых заводаў—гігантаў сынтэтычнага (штучнага) каучука, і служыць гаручым для аўтатрактарнага парку, авіярачнога транспарту, і сыравінаю для вытворчасьці больш чым 150 розных рэчаў.

Вялікае значэньне мае бульба, як сыравіна для крухмальна-патачнай і сагавай прамысловасьці. Плянавыя запатрабаваньні на крухмала-прадукты для кандытэрска-цукерачнай, тэкстыльнай, паліграфічнай, каўбаснай прамысловасьці і для іншых галін народнай гаспадаркі з кожным годам узрастаюць. Апроч таго крухмал-прадукты служаць адным з галоўных відаў вывазу ў суседнія рэспублікі і для экспарту.

Параўнаўча з 1913 г. ураджайнасьць бульбы ў 1931 годзе павялічылася на 28,5 *цнт з га*. На саўгасных палёх яна стаіць вышэй, чым у калгасах і аднаасобнікаў. У 1931 годзе ўраджайнасьць у саўгасах была 101 *цнт* і ў калгасах—98 *цнт*, у аднаасобнікаў—92 *цнт з га*. Аднак, поруч з гэтым у нашай бульбянай гаспадарцы маецца рад буйных недахопаў: няма дастаткова рашучай барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці бульбы і няма жорсткай барацьбы за павышэньне якасьці прадукцыі.

Адным з галоўных мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці бульбы зьяўляецца выбар і ўстанаўленьне найбольш рацыянальнага севазвароту. Выбар месца ў севазвароце для бульбы спрашчаецца тым, што яна меней другіх культур баіцца звароту на адно і тое-ж самае месца пры наяўнасьці дастатковай колькасьці ўгнаеньняў.

Найлепшым месцам для бульбы ў севазвароце зьяўляецца поле, якое вышла пасьля ўгноенай азіміны, або з-пад бабовых расьлін: канюшыны, сэрадэлі, вікі, віка-аўсянай мешаніны, гароху, лубіну і інш., якія накапляюць у глебе азот, што павышае ўраджай.

Як роля бульбы ў севазвароце, так і самы севазварот складаецца ў залежнасьці ад вытворчай спэцыялізацыі саўгасаў і ад прыродна-эканамічных умоў гаспадаркі. Выходзячы з вытворчай спэцыялізацыі раёну можна вызначыць наступныя тыпы сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў:

Бульбяна-гародна-малочны тып гаспадаркі знаходзіцца ў зоне прамысловых цэнтраў і буйных гарадоў. Пры разьвядзеньні ранняй сталовай бульбы магчыма атрымаць 2 ўраджаі. Для вытворчасьці насеннага матар'ялу сталовае бульбы павінны быць выдзелены спэцыяльныя гаспадаркі.

Бульбяна-прамысловы тып знаходзіцца ў зоне заводу і зьяўляецца галоўным дастаўшчыкам тэхнічнай бульбы на завод. Спэцыялізаваныя гаспадаркі забясьпечваюцца высока-крухмалістаю насеннаю бульбаю з бульбяна-насенаводных фэрм.

Бульбяна-жывёлагадоўчы тып гаспадаркі разводзіць кармовую бульбу для забесьпячэньня жывёлагадоўлі патрэбнай колькасьцю кармоў. Такія тыпы гаспадаркі павінны снабжацца насенным матар'ялам кармовае бульбы з спэцыяльных насенаводных фэрм.

Чарговым мерапрыемствам, якое значна павышае ўраджайнасьць бульбы, зьяўляецца выраб глебы. Бульба для свайго росту патрабуе глыбокай, пухкай глебы. Каб дасягнуць гэтага неабходна поле пад бульбу пачынаць апрацоўваць зараз-жа пасьля ўборкі папярэдніх культур азімых ці яравых. Наўперад поле лушчыцца на глыбіні 5—7 *см*, а праз 2—3 тыдні ўзорваецца на глыбіні ня менш 13 *см* на мінэральных глебах і да 18 *см* на балотных. Наогул, глыбіня зяблевага ворыва не павінна быць больш глыбіні пераўгноенага гарызонту.

Вясною, як толькі ўстановіцца магчымасьць выехаць у поле, неабходна прыступіць да баранаваньня, дзякуючы якому разбураецца корка і глеба ня так хутка высушваецца. Пасьля баранаваньня робіцца другое ўзорваньне, глыбіня якога ў значнай меры залежыць ад якасьці асеньняга ворыва на зяб, ступені ўшчыльненьня глебы за зіму і стану надвор'я. Пры дрэннай якасьці ворыва на зяб, пры моцным ушчыльненьні глебы і пры сырым надвор'і вясны ўтвараецца глыбокае ворыва. Праз некаторы час у залежнасьці ад надвор'я і стану ворыва робіцца прадпасеўнае баранаваньне поля жалезнымі баронамі.

На лёгкіх глебах веснавое ворыва можа быць заменена дыскаваньнем. У тых выпадках, калі бульбянае поле ня ўзорвалася на зяб,—увесну робіцца адно або двухразовае ворыва.

Уплыў розных спосабаў вырабу глебы пад бульбу на ўраджайнасьць яе можна ілюстраваць дасьледчымі дадзенымі. Так, пры двухразовым веснавым узорваньні іржышча атрымаўся ўраджай бульбы 151,4 *цнт на га*, а пры асеньнім узорваньні і веснавым пераворваньні—189,7 *цнт*. Пры аднаразовым веснавым узорваньні канюшынішча ўраджай бульбы атрымаўся на 23 *цнт з га* ніжэй, чым пры асеньнім лушчэньні і веснавым узорваньні.

З прыведзеных прыкладаў відаць, што для павышэньня ўраджайнасьці бульбы лепей апрацоўку глебы пачынаць увосень, праз што даецца большая магчымасьць перапрэць пажніўным рэшткам папярэдніх культур і захавацца глебе ад лішняга высушваньня.

Для павышэньня ўраджайнасьці бульбы адным з важнейшых мерапрыемстваў служыць угнаеньне, як арганічнае (гной, торф, кампост, зялёныя ўгнаеньні), так і мінэральнае (азоцістае, фасфарытнае і калійнае).

Адным з каштоўных угнаеньняў пад бульбу лічыцца натуральны гной. Пры ўнясеньні 36 *т* гною на *га* ўраджай бульбы паводле дасьледчых дадзеных павялічыўся на суглінках на 48 проц., на супесях—на 42 проц. і на пяскох—на 26 проц. Тэрмін унясеньня гною моцна адбіваецца на ўраджайнасьці бульбы. Так, пры вопытах на пескавых глебах гной за 2 гады да пасадкі бульбы даў ураджай 82 *цнт на га*, за 1 год—99 *цнт* і ўнесены непасрэдна пад бульбу—144 *цнт*. Адсюль неабходна зрабіць вывад, што пад бульбу ў севазвароце трэба займаць поле, якое выйшла пасьля ўгноеных культур.

Пад бульбу лепей даваць гной перапрэўшы і ня вельмі саломісты—пад асеньняе глыбокае ўзорваньне або за 2—3 тыдні да пасадкі.

(*Канец у наступным нумары*).

**Я. Ярмашэвіч.**

Адказны рэдактар: рэдкалегія.

Друк. імя Сталіна. Зак. № 393 У ліку 1.200 экз. Мен. Гарліт. № 1350.